Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

3 снежня 1997 года
СЕРАДА
№ 72
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 750 руб.
Цана ў розніцу — 1000 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА




## МЯСЦОВЫ

### Семінар, ах, семінар...

На мінулым тыдні ў Івацэвіцкім раёне адбыўся абласны семінар, прысвечаны пытанням сумеснай работы дзяржаўных і грамадскіх арганізацый па патрыятычным выхаванні моладзі. У яго рабоце прынялі ўдзел прадстаўнікі райкамаў БПСМ і БСМ, саветаў ветэранскіх арганізацый, вайсковай часці Даманаўскага гарнізона, кіраўнікі Брэсцкага аблвыканкама і Івацэвіцкага райвыканкама.

Удзельнікі пабылі ў Даманаўскім гарнізоне, праехалі па месцах баявой славы Івацэвіцкага раёна, пабывалі у Квасевіцкай школе,на АТ «Косаўскае МВА», сустракаліся з ветэранамі вайны, вайскоўцамі і прынялі ўдзел у рабоце круглага стала, на якім дзяліліся вопытам сваёй работы па патрыятычнаму выхаванню моладзі, абмяркоўвалі праблемы і акрэслівалі планы работы на бліжэйшае будучае.

Як сказаў нам другі сакратар Івацэвіцкага райкама БПСМ Віктар Голуб, такія семінары вельмі патрэбны людзям, якія ўсклалі на свае плечы цяжар работы па патрыятычнаму выхаванню моладзі. Можна было б згадзіцца з яго словамі, калі б дакладна ведаць, што такое мерапрыемства вырашыць хоць б адну з сённяшніх праблемаў. Ну, хаця б такую: 50 працэнтаў прызыўнікоў у Даманаўскім гарнізоне складаюць юнакі з Івацэвіцкага раёна. Апытанне іх з дапамогай ананімнага анкетавання паказвае, што на службу яны пайшлі без асаблівага жадання.

Прымушае глыбока задумацца і той факт, што ў вайсковай часці амаль што няма салдатаў з сем'яў прадпрымальнікаў, спецыялістаў і... кіраўнікоў рознага рангу. А яны ж па абавязку сваёй службы павінны займацца патрыятычным выхаваннем моладзі (вядома, і сваіх сыноў таксама).

Такім чынам, на семінарах можна гаварыць прыгожа, кідаць высокія заклікі, будаваць велічныя планы, а ў жыцці пра гэта ўсё, як бы мякчэй сказаць, забываць... І яшчэ. Ці не задумваліся вы, паважаныя чытачы, колькі нам з вамі абыходзіцца праведзены семінар (арганізаваны ён жа на сродкі падаткаплацельшчыкаў, г. зн. з дзяржаўнага бюджэту)? Удзел у ім прынялі больш за 100 чалавек з усіх раёнаў Брэсцкай вобласці. Яшчэ некалькі дзесяткаў чалавек на месцах былі адцягнуты ад выканання сваіх службовых абавязкаў. Для паездак па месцах правядзення семінару патрэбен быў транспарт, бяспечны рух якога быў пад наглядам міліцыі...

СЁННЯ — МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ ІНВАЛІДАЎ

*Дзень інвалідаў наўрад ці трэба лічыць святам у літаральным, урачыстым сэнсе слова. Хутчэй гэта абвостраная неабходнасць павярнуцца тварам да праблемаў, патрэб тых людзей, воляй лёсу якіх жыццё склалася крыўдна, балюча, трагічна. Пра гэта гаворка нашага карэспандэнта са старшыней Івацэвіцкага савета раённага аддзела Беларускага таварыства інвалідаў В. І. САЎЧУКОМ.*


Фота А. ГАНЧУКА.

## КЛАПАЦІЦЦА ПРА ІНВАЛІДАЎ — НАШ МАРАЛЬНЫ АБАВЯЗАК

**— Што ўяўляе цяпер, Васіль Ігнатавіч, гэтая грамадская структура?**

— У нас на ўліку 1958 інвалідаў. Сёлета прынята ў таварыства 198 чалавек. У раёне створана 22 пярвічныя арганізацыі. Сабрана членскіх узносаў на суму 3625 тысяч рублёў.

Свой пачатак наша арганізацыя бярэ з 1989 года, калі на ўстаноўчай канферэнцыі была аформлена пярвічная гарадская арганізацыя.

**— Праблемы ў сённяшніх інвалідаў у многім пераклікаюцца, адны і тыя ж. Як клапоціцца таварыства пра сваіх людзей?**

— Клопаты пра людзей – наш маральны абавязак. Гэта найбольш абдзеленая ў плане матэрыяльнага становішча і здароўя катэгорыя насельніцтва. І кожнага нельга ўпусціць з полю зроку.

Лічу, што мы робім добрую справу, калі вясной сваіх членаў забяспечваем зямельнымі ўчасткамі. Сёлета, напрыклад, такія невялікія надзелы бясплатна атрымалі ў Івацэвічах 570 інвалідаў. Міжраённае ўпраўленне асушальных і арашальных зямель (начальнік М. Г. Дзядок) апрацавала 25-гектарную плошчу, а РВА ЖКГ (дырэктар Л. М. Кавалевіч) зрабіла на тарфяніку радкі. Усё зроблена за кошт гэтых арганізацый. Дзякуй ім.

Зямельныя ўчасткі арганізавана атрымалі сёлета члены Косаўскай і Быценскай арганізацый. Для іх патрэб выдзелена 9 гектараў зямлі.

Прыжылася ў нас такая форма дапамогі як продаж інвалідам ячменю па льготнай цане. Прычым, робіцца гэта паўсямясцова – як гарадскім, так і вясковым інвалідам. Ужо адпушчана больш за 88 тон на агульную суму 265 мільёнаў рублёў. Асаблівая падзяка старшыні калгаса імя Чапаева В. С. Шляжку, які па зніжанай цане прывёз у Івацэвічы сваімі грузавікамі 10 тон ячменю і яго разгрузіў. Дзякуй таксама дырэктару саўгаса «Перамога» В. І. Валанцэвічу і старшыні праўлення калгаса «Грыўдзенскі» В. А. Кату, якія змаглі адпусціць нам ячмень. Дапамог нам у гэтай справе і дырэктар спіртзавода С. П. Мазько, які машынамі свайго прадпрыемства прывёз ячмень з Грыўды.

Калі гаварыць пра сельскіх інвалідаў, дык сёлета арганізавана атрымалі ячмень члены Целяханскай, Рэчкаўскай, Жытлінскай, Косаўскай, Стайкаўскай, Коланскай, Гортальскай і Аброўскай пярвічных арганізацый.

Пра паліва на зіму для нашых інвалідаў паклапаціўся дырэктар Даманаўскага вытворча-гандлёвага камбіната С. І. Курленя, які забяспечыў бясплатна 118 інвалідаў дровамі. Кіраўнік аднаго з малых прадпрыемстваў райцэнтра В.А. Скурчык тое ж самае зрабіў – адпусціў і даставіў дадому дровы 21 інваліду.

Аказваем грашовую дапамогу. Сёлета за 11 месяцаў на гэтыя мэты зрасходавана 21900 тысяч рублёў. Нашы невялікія па сучасных мерах дапамогі атрымалі 236 інвалідаў.

А кіраўнік райаграмтэхнікі А. А. Коктыш знайшоў магчымасць, каб 52 інвалідам з дзяцінства і маламаёмным выдаць па 3 кг мукі.

**— Ці знаходзіць Ваша таварыства паразуменне ў мясцовых уладаў? За палітычнымі дэбатамі, стварэннем беларускага эканамічнага цуда і бітвамі за ўраджай ці заўважае яна, што сярод нас жывуць інваліды?**

— Намёк зразумеў. Кантакты нашага таварыства з райвыканкамам вельмі цесныя. Вялікі дзякуй старшыні райвыканкама Пятру Георгіевічу Жышку і яго намесніку Уладзіміру Мікалаевічу Макару. Яны заўжды ідуць нам насустрач, ведаюць праблемы інвалідаў і дапамагаюць па меры магчымасці іх вырашаць. Можна сказаць, што яны самі ідуць да інвалідаў, не чакаючы прашэнняў. А такое, згадзіцеся, выклікае ў адказ павагу і ўдзячнасць.

**— Васіль Ігнатавіч, мы тут гаварылі пра дапамогу, так бы мовіць, натуральную. А як з грашыма — без іх усюды туга? Ці не ідзе спонсарская дапамога на спад?**

— Скажу шчыра: з кожным годам прасіць грошы ўсё цяжэй і цяжэй. Але ў нас добрыя і чулыя памочнікі, якія не пакідаюць нас, знаходзяць магчымасць, каб на наш рахунак пералічыць хоць некалькі мільёнаў. Кожны год рэгулярна і пастаянна гэта робяць АТ «Івацэвічдрэў» (генеральны дырэктар Б. М. Міхнюк), ААТ «Івацэвіцкі малочны завод» (дырэктар А. А. Груздзеў), Івацэвіцкі і Целяханскі лясгасы (дырэктары Я. М. Ліпскі і І. У. Вагульчык), ПМК-18 (начальнік У. В. Ляцяга), завод ЖБВ (дырэктар М. А. Куіс), філіял «Прыёрбанка» (кіраўнік Г. І. Ляшкова), філіял Будбанка (кіраўнік З. А. Саук), хлебапрыёмнае прадпрыемства (дырэктар А. А. Гарчанюк). У апошнія гады пачалі больш добразычліва адносіцца да нашага таварыства райпо (старшыня праўлення В. А. Уласавец), раённыя вузлы электра- і паштовай сувязі (начальнікі А. С. Дарагакупец і Г. І. Баранаў), райгаз (начальнік Р. Р. Бярынчык), установа Уж 15|5 (начальнік С. А. Царэнка), Квасевіцкая пухапер'евая фабрыка (дырэктар Т. К. Папко), ПМК-11 (начальнік Н. М. Стральчук) і многія іншыя.

**— Як таварыства збіраецца адзначыць Міжнародны дзень інвалідаў?**

— У гэты дзень мы правядзем агульны сход інвалідаў райцэнтра. Гэта магчымасць лішні раз напомніць усім аб патрэбах дзесяткаў людзей. Зробім аналіз лепшага, што зроблена за год, паспрабуем разабрацца ў сітуацыі і дагаворымся аб планах на будучае.

*Гутарыў А. ЛАЎРАНЮК.*

АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?

*— «Газета для вас»? Чуў, што ў рэспубліцы ідзе збор подпісаў пад дакументам пад назвай «Хартыя-97». Што напісана ў гэтым дакуменце, куды дасылаць свой подпіс пад ёю, хто ўжо падпісаўся пад «Хартыяй-97»?*

*С. ВЫСОЦКІ, жыхар г. Івацэвічы.*

## Хартия — 97

**Мы, граждане Республики Беларусь, заявляем, что действия нынешних властей направлены на уничтожение неотъемлемых прав и свобод человека. В стране попран основной закон — Конституция. Белорусскому народу отказано в праве избирать своих представителей во властные структуры. Ведется систематическое наступление на свободу слова, на право граждан знать истинное положение дел в стране. Разрушаются национальные культура и школа, вытесняется белоруский язык. Каждодневный рост цен и нищенская зарплата ставят на грань выживания сотни тысяч семей. В канун XXI века в центре Европы установился диктаторский режим. 10 миллионов человек оказались во власти произвола.**

**Мы верим, что наша Родина достойна свободы и процветания. Мы верим, что именно такой сделают ее наши совместные усилия. Нас вдохновляет пример свободных народов, которые прошли этот путь раньше нас. Мы помним, как группа мужественных чешских и словацких правозащитников подписала «Хартию-77», провозгласившую борьбу с тоталитаризмом в своей стране, и как через несколько лет от красной диктатуры в Восточной Европе не осталось и следа. Люди в этих странах получили возможность свободно строить свою жизнь и добиваться благополучия.**

**Мы не можем мириться с произволом, попранием законов, преступлениями против всего народа и отдельной личности. Мы будем солидарны с каждым, кто борется за свои права, добивается свободы и благосостояния для себя и своей семьи.**

**Мы придерживаемся разных политических взглядов и религиозных верований, но нас объединяет любовь к свободе и Отечеству. Фундаментом нашей готовности к совместным действиям по освобождению белорусского народа станет уважение к взглядам и вере друг друга. Наша солидарность победит насилие и бессовестную ложь. Все, кто встал на путь борьбы за свои права и человеческое достоинство, должны быть уверены в общей поддержке.**

**Мы надеемся на понимание мирового сообщества и солидарность всех сил, которые видят опасность формирования новой коричневой империи на постсоветском пространстве. Осколок тоталитаризма должен быть извлечен из тела Европы.**

**Мы, граждане Беларуси, заявляем сегодня о своей ответственности за судьбу страны, за будущее наших детей. Мы сделаем Беларусь свободной, суверенной, процветающей европейской страной, где защищены права человека, где нет политзаключенных, где все имеют достойные условия для жизни.**

**Мы призываем всех граждан Беларуси присоединиться к нашей Хартии, чтобы вместе бороться за свои права и свободы, за восстановление демократии и законности в нашей стране.**

**ДА ЗДРАВСТВУЕТ СВОБОДНАЯ БЕЛАРУСЬ!**

подпись ______________________ фамилия, имя

______________________________________

______________________________________

XXX

Этот документ подписало более 100 ведущих деятелей культуры (**Василь БЫКОВ, Рыгор БОРОДУЛИН, Виктор ДАШУК, Лявон ВОЛЬСКИЙ, Юрий ХАЩЕВАТСКИЙ** и др.,) депутатов Верховного Совета (**Мечеслав ГРИБ, Геннадий КАРПЕНКО, Станислав ШУШКЕВИЧ, Семен ШАРЕЦКИЙ и др.**), журналистов (**Игорь ГЕРМЕНЧУК, Иосиф СЕРЕДИЧ, Павел ШЕРЕМЕТ и др.**), общественных деятелей (**Лявон БОРЩЕВСКИЙ, Александр ПОТУПА, Татьяна ПРОТЬКО, Юрий ХОДЫКА** и др.).

XXX

Калі Вы вырашылі паставіць свой подпіс пад гэтым дакументам, то дасылаць яго патрэбна на адрас рэдакцый незалежных рэспубліканскіх газетаў «Имя», «Белорусской деловой газеты», «Народной воли», «Свободных новостей», «Здравого смысла», «Нашай нівы».

**ГОСУДАРСТВО И МЫ**

# СУДИТЬСЯ — НАСТРАДАТЬСЯ

Поднаторели мы во всякого рода сплетнях, дрязгах, интригах. Хлебом не корми, а дай кого подсидеть, утопить, посадить за решетку. Сосед соседу желает, чтобы у него корова сдохла. Товарищ мечтает, чтобы у друга «мерс» увели и не нашли. Подчиненный хочет видеть начальника своего в опале. Но, к счастью, чаще всего эти черные мысли так и витают в неразумных головах и злых сердцах, не воплощаясь в реальность. А уж если человек, облаченный властью, глаз положит на своего подначального – держись, несчастный! Этот – съест! С косточками! С семьей и друзьями. Тем более, что для таких грязных дел у нас, к сожалению, созданы все условия.

История, которую я вам, уважаемые читатели, поведаю, пожалуй, типична для любого коллектива с нездоровой обстановкой. Внешне люди как люди: чиновники, наделенные властью в той или иной мере согласно занимаемой ступеньке служебной лестницы и должностной инструкции. Хорошо одеты, вежливы, этичны. Как и подобает современным «белым воротничкам». Решают будто бы поставленные перед ними задачи экономического и социального плана, скажем, города, региона. Кропотливо составляют мероприятия, ориентируясь на вышестоящие указания. Денно и нощно пытаются их выполнить. Неторопливо или в горячке, в зависимости от слаженности заданного темпа, движется конвеер их дел. С удачами, ошибками, явными промахами, а может и успехами. Как везде, у всех. И вдруг…

Что-то случилось. Кто-то оступился. Ну, допустим выступил против начальства, раскритиковал кого, набедокурил. Взять бы да разобраться в сути, среагировать на критику, поправить и даже, может быть, на всех законных основаниях переставить служащего на другое место, где он соответствует. А то и уволить «по собственному желанию», по статье, если соответствует.

Но не тут-то было. Конфликт переключает внимание на новое, неожиданное событие. И все кидаются с остервенением топтать, давить, шантажировать, топить несчастного, вымещая на нем свою злобу, развевая скуку, одновременно выслуживаясь перед начальством.

А что перед нами живой человек с ранимым, как у всех, сердцем, быть может, с семьей и малыми детьми, которые наравне с папой или мамой, бывает и глубже, переживают свалившуюся беду, в расчет не берется.

Я не склонен утверждать, что коллектив и случай, о которых собираюсь рассказать, зол, беспощаден, уникален. Но факты — вещь упрямая.

…Лет этак десять назад по рекомендации тогдашнего председателя комитета по архитектуре и градостроительству Брестской области Р. А. Шилая на пост начальника управления по архитектуре и строительству г. Барановичи был назначен Анатолий Николаевич Радионенко. Переводом. С должности главного архитектора города Несвижа и Несвижского района. Долго, видать, искал Шилай специалиста для такого крупного города. Нашел, изучил, уговорил. Еще бы! За плечами у сорокавосьмилетнего архитектора инженерно-строительный институт (архитектурный факультет). Между прочим, Брестский. Видимо, Шилай приметил талантливого студента еще в вузовских аудиториях. Член Союза архитекторов СССР. За стройку сельских населенных пунктов района награжден двумя медалями ВДНХ СССР. Асс?

— Как я упрашивала Анатолия не переезжать в Барановичи, — вспоминает жена Тамара Николаевна. – Как чувствовала беду. Но он говорил, мне нужно развиваться. Я город потяну.

Она нервно почесывает локти, колени. Заметив мой взгляд говорит:

— Как первый раз Толю сняли, у меня язвы пошли по рукам и ногам. Видите – темные пятна остались. Восстановили – прошло. Опять отстранили – снова эта чесотка. Снова.., — глаза наполнились слезами.

Выслушав Анатолия Николаевича о его работе в Барановичах, я, зная по опыту, что человек склонен несколько преувеличивать свои успехи, углубился в характеристику, выданную упомянутым областным комитетом по архитектуре и градостроительству, подписанную новым председателем И. И. Карватом. И чтобы не быть уличенным в пристрастии, привожу выдержку из нее: «За время работы в должности главного архитектора улучшилось положение дел в застройке г. Барановичи… Радионенко А. Н. требовательно и настойчиво отстаивал реализацию генерального плана города…. принимал все меры по предотвращению и исправлению (нарушений градостроительной дисциплины. – П. Н.), допущенных инвесторами, районом и застройщиками самоуправных действий»… И так по всем направлениям деятельности главного архитектора (будем упрощенно называть его должность). Конечно, признает Карват, при таком огромном объёме работ, сложности взаимосвязей, допускались и неувязки, и ошибки… В целом считаем, что Радионенко А. Н. по своим профессиональным, деловым и морально-этическим качествам вполне соответствует должности главного архитектора города…»

Так же высоко оценил работу Радионенко А. Н. и заместитель министра архитектуры и строительства Республики Беларусь А. И. Ничкасов еще в 1994 году, подчеркнув, что краткая творческая биография Радионенко занесенна в книгу «Архитектура Советской Белоруссии». Это когда еще было! Но было! Да и областной проектный институт «Брестгражданпроект» дал положительный отзыв за подписью директора института В. Я. Самцова и начальника Барановичских архитектурно-конструкторских мастерских К. П. Козловского.

Радионенко Анатолий Николаевич просто работал добросовестно, получая то поощрения, то замечания и даже выговоры от исполкома. С одного такого выговора и загорелся сыр-бор. Собственно, гл. архитектор, как обычно, зная свою правоту, не очень переживал – перемелется. Но неожиданно, а, может, и намеренно «взорвался» Р. А. Шилай. Изучив полученные из Барановичского горисполкома решение о наложении дисциплинарного взыскания «за нарушение сроков рассмотрения обращений граждан и субъектов хозяйствования…» и справку о результатах проверки работы начальника управления, он камня на камне не оставил, опровергнув все пункты обвинения. Радионенко были предъявлены нарушения в таких сферах градостроительства, которые не входили в круг его служебных обязанностей.

Не буду голословным. Кооператив «Нептун» передал заявку на земельный участок для строительства 14 одноквартирных домов, и не дождавшись положительного решения, самовольно захватил землю, начал строительство, постоянно опаздывая с оформлением документов. Но контроль за ходом проектирования и строительства – компетенция Госстройнадзора, а не гл. архитектора. В другом случае по разным причинам запутался вопрос передачи земельного участка заводом станкопринадлежностей некоей Н. Г. Селяве. При этом были поставлены условия по благоустройству прилегающей территории, отчислению средств на развитие коммунально-инженерных служб города. Поскольку ни завод, ни Селява не выполняли этих требований, исполком несколько раз откладывал разрешение вопроса передачи земли. И хотя это дело землеустроителей, вину свалили на Радионенку.

Взвесив все за и против, получив моральную поддержку от вышестоящего начальства, гл. архитектор решил избавиться от выговора через суд.

Узнав об этом, бывший тогда председатель горисполкома «по вертикали» Валерий Николаевич Захарченко, как утверждает Радионенко, чуть ли не по плечу похлопал:

— Заберите из суда заявление, если хотите со мной работать. Я не работаю с тем, кто со мной судится. И мы забудем об этом.

Жена стала на колени:

— Толя! Не забирай! Быть беде.

Судья покачал головой:

— Напрасно… Взыскание необоснованно, незаконно.

Не послушал гл. архитектор никого, поверил Захарченко, отозвал иск. И оставил себе занозу. Зацепились за выговор в исполкоме и стали бить и ломать Радионенко. Проверка, слежка, тотальный контроль деятельности, судя по справкам проверок. А, скажите, у кого, работающего активно, напряженно, творчески не бывает натяжек. Вполне естественно. Однако в свете развернувшейся травли, даже мелкие отклонения в работе преподносились как чуть ли не особо опасные преступления. Кто был за «вертикальное» мнение (а оно, как оказалось, однозначно: избавиться от работника, позволяющего себе защищать свои честь и достоинство), ринулись на опального архитектора. Все его успехи, достижения управления в архитектуре и градостроительстве Барановичей мгновенно забыты, замалчиваются. Признается только компромат. Впрочем, известно, как сносят головы в наше время. Попадет случайно или по недосмотру иной представитель президентской вертикали на высокое кресло и начинает пробовать свои силы и полномочия, помахивая кулаком перед носом подначаленного народа, изредка «пуская кровь» для острастки других. А уж кто посмеет глаза поднять, такой «вертикальщик» на все пойдет, любой закон переступит, а своего добьется.

…Наконец, справка составлена. Бригадой в составе председателя, заместителей, заведующих отделов и юриста исполкома. Обвинение – по всем статьям: развал, караул! Архитектура в городе – на грани. Это притом, что область организовывает в Барановичах показательные семинары, заглядывают сюда и с других регионов республики поучиться, как вписать индивидуальное строительство в план города, как расположить десятки тысяч гаражей, чтобы они и недалеко были, и не занимали земель под жилстрой. И т. д.

Обвинения, напичканные в справке, на взгляд некомпетентного человека, серьезные. (Я себя таким считаю в архитектуре). Но насторожил такой факт. После слов: «Однако как свидетельствуют результаты проведенной проверки, изложенные выше, Радионенко А. Н. должных выводов не делает…» Вся справка отпечатана с ровным, нормальным интервалом между строчек, а последний абзац, именно после слов «… должных выводов не делает» ужат до невозможности. И в этом, последнем абзаце, комиссия считает, что Радионенко «заслуживает освобождения от занимаемой должности».

Радионенко показывает копию, вернее, второй экземпляр первоначальной справки:

— Вот здесь после слов: «выводов не делает», я расписался, что ознакомлен. Остальное допечатали позже. Тайно. Меня, что ли боялись?

Да, а кому же справка? Исполкому для принятия мер. И составили ее члены же исполкома, одна рука взяла за горло строптивого специалиста, а другая взмахнула шашкой…

Естественно Радионенко снова обратился в суд.

Между тем, «дело» о гл. архитекторе и его борьбе с исполкомом обрастает чудовищными слухами, домыслами, предположениями.

Не хватит и газетной страницы расписать методы давления на Радионенко. Он сдался. Но, опять опомнился, и, как уже было сказано, — в суд.

Выразив недоверие Барановичскому суду, юрист исполкома от имени своего патрона потребовала слушания дела в другом городе. Дело передали в Ляховичи. Ляховичский районный суд в составе председательствующего Н. А. Кмита, заседателей Л. В. Лозюк, В. И. Кишкевич дотошно изучил дело и вынес вердикт – восстановить А. Н. Радионенко в должности.

Конечно же, верхушка местной власти и не думала подчиниться какому-то там суду. Новый заряд многочисленных проверок. И вот уже областной суд отменяет решение районного.

Дальше – больше. Опять отстраненный от должности Радионенко добивается повторного суда в г. Ивацевичи и выигрывает его. Приступив к исполнению обязанностей, сваливается с ног с 33-мя язвами в желудке. Жена лечится от аллергии. В школе дети поддевают сына: то твоего отца снимали, то восстанавливают. Даже дети посмеиваются над неумением исполкома съесть человека раз и навсегда. Медленная травля продолжается. 18 июля 1997 года, как я уже сказал выше, Ивацевичский суд под председательством судьи В. Д. Воробья вернул Радионенко к работе. Все? Нет! Не на таких напал г-н Радионенко. Судьи за тебя, а за нас прокуроры, методично и успешно опротестовывающие решения судов.

Но кто-то же из этих противоборствующих поборников Закона прав, а кто-то не прав. Для кого здесь Закон даже не дышло, а кнут обыкновенный? Какова роль исполкома в этой, на годы затянувшейся склоке? На решение тех ли задач, поставленных правительством, направлена «целеустремленная, спланированная» работа исполкомовских служащих, затрачивающих на подготовку справок и исков немалую часть времени, да и средств?

…Статья уже, как говорят у нас, журналистов, пошла в набор, а тут новость: облсуд отменил решение Ивацевичского суда и отправил дело на доследование. У облсуда свои доводы: дело должно разбираться в районном суде. А он уже дважды установил правду, двумя составами в различных городах. Что? Не под силу правда-матушка? Иль в наши времена она не в чести?

Со стороны исполкома усматриваются явные перегибы, натяжки, инициатива. Радионенко же хочет, пусть даже получив урок, работать по специальности и в своей опробованной должности гл. архитектора. Где он показал свои недюжинные способности. И работать с полной отдачей, а не растрачивая свой творческий потенциал на возню вокруг него. Чтоб не получать оплеухи даже от кассира, которая не выдавала ему несколько дней зарплату, ссылаясь на устный запрет зав. финотделом.

Мелко «бреете», господа чиновники! Растрачиваете силы на борьбу с таким беззащитным человеком, как Радионенко. А если сцепитесь с опытным бойцом? А? Не суд проиграете, а власть потеряете. Чтобы этого не случилось, крепко держитесь не за кресло руководящее, а за Основной Закон – Конституцию и уважайте ее, зеркало прав белорусского народа. Иль оно для вас кривое, на шарнирах, со штурвалом? Как захочу, так и поверну?

*П. НАГНИБЕДА.*

КРЫМІНАЛ

# «Грабеж» на вуліцы Паркавай

19 лістапада ў 21 гадзіну 20 хвілін у дзяжурную часць райаддзела міліцыі звярнулася грамадзянка Людміла Б. Ледзь не плачучы, яна паведаміла, што некалькі хвілін назад яе аграбілі: забралі сумачку з дакументамі і грашыма.

Мяне разам з іншымі аператыўнікамі выклікалі з дому. Створаная група занялася пошукам грабежніка.

Пацярпелая расказала, што яна разам з мужам Васілём вярталася з гасцей. Па вуліцы Паркавай, што ў Івацэвічах (гэта ля сквера якраз насупраць «Рамбыттэхнікі»), на іх напаў нейкі мужчына, забраў сумачку з дакументамі і грашыма і ўцёк. Амаль да ранку пацярпелая вадзіла тудысюды аператыўнікаў, паказвала сляды (якраз снякок пацерушыў і сляды былі добра бачны), паказала, куды грабежнік пабег, і ўсё божкала і бедавала, што дакументы прапалі.

На жаль, у тую ноч не ўдалося знайсці грабежніка.

Як жа ўсё было на самай справе, што ж здарылася на вуліцы Паркавай?

Сапраўды, Людміла і Васіль у той вечар ішлі з гасцей. А там без спіртнога не абыйшлося. Па дарозе пачалі спрачацца. Ніхто не хацеў уступаць. Сталі штурхаць адзін аднаго – пападалі. Усталі і падыбалі далей. Насупраць «Рамбыттэхнікі» зноў зваліліся, зноў валтузілі адзін аднаго. Якраз у гэты момант па вуліцы ішоў жыхар райцэнтра Аляксандр С. Прыпыніўшыся і ўбачыўшы, што жанчына і мужчына п'яныя і ў дапамозе не маюць патрэбы, хацеў было ісці далей. Але з зямлі схапіўся мужчына і кінуўся да Аляксандра.

— Дай закурыць! — запатрабаваў незнаёмец.

— Не куру, — спакойна адказаў Аляксандр і намерыўся ісці далей.

— Брэшаш! — зароў незнаёмец. – Шкадуеш! — і схапіў за рукаў курткі Аляксандра. Яна ледзь не засталася ў руках п'янага.

Аляксандр, малады высокі чалавек, адштурхнуўшы ад сябе выпіваку, падбег да жанчыны, якая паднялася, выхапіў у яе з рук сумачку і пабег. На хаду яшчэ спытаў:

— Тут дакументы ёсць? — і , пачуўшы «ёсць», крыкнуў: — Я вас знайду...

Відаць, не чулі выпівакі, што ім крыкнуў Аляксандр.

Чаму ж такі «ход» зрабіў малады чалавек?

А тлумачыцца вельмі проста. Зусім нядаўна Аляксандр С. вечарам ішоў з работы. Некалькі маладых хлопцаў спынілі яго і папрасілі закурыць. Адказ быў той жа, што і на гэты раз. За такі адказ адзін з брытагаловых пырнуў Аляксандра нажом у жывот. З цяжкасцю вылечыўся. І каб пазбегнуць падобнага інцыдэнту з мужчынам і жанчынай, рашыў не ўвязвацца ў спрэчку ці бойку, а сумачку прыхапіў, каб даведацца, хто парваў яму куртку і патрэбаваць платы за яе псаванне.

Людміла Б. потым каялася, што падвяла следства і паабяцала заплаціць за рамонт курткі Аляксандру. Але праз некалькі дзён адмовілася. Цяпер справа ў судзе. Праз гэтую ўстанову будуць спаганяць грошы за папсаваную адзежу. Прыдзецца Людміле заплаціць яшчэ і судовыя затраты.

А за наўмыснае ўвядзенне ў зман следства Васіль Б. начальнікам міліцыі аштрафаваны.

Вось такія першыя вынікі «грабяжу» на вуліцы Паркавай.

*В. ЛЯЎЧУК,*
*оперупаўнаважаны крымінальнага вышуку Івацэвіцкага райаддзела міліцыі.*

СТОП-КАДР



*А пра што там гаворыць радыё?* *Фота А. ГАНЧУКА.*

ПРОВИНЦИАЛЬНЫЕ ИСТОРИИ

# Была ли ненависть?

Развод был на носу. Странная жизнь от первого поцелуя до истошной ненависти оборвется через несколько дней. Редкие вспышки страсти холодно мерцали над потухшим костром любви. Искромсанные ссорами чувства, казалось, исчезли. В ней. И в нем.

Алла и Миша ждали. Возмущались: почему это должно случиться именно у них? Чем они провинились перед судьбой? Казалось, их объединяла только жалость к детям. Костик и Ната безвинно станут полусиротами. Дети тревожно жили между папой и мамой. И упорно ждали возвращения прежней счастливой жизни, как очередного подарка.

... К судебному процессу о разводе они подготовились основательно. Составили список вещей на раздел, который огласят на суде. Решили разменять двухкомнатную квартиру. Определили когда, в какие дни Миша будет встречаться с Костиком и Натой. Алиментов не будет. Миша будет приносить деньги с каждой получки. Оба знали, что этими алиментами-подачками он не ограничится.

Двенадцать лет семейной жизни с радостями и ссорами пролетели, как сон. Минуты тоскливого ожидания развода тянулись мучительно, бесконечно, больно... Не разбираясь во взаимоотношениях мамы и папы, но страшась их, малыши безотчетно решились...

Вечером Костик не стал есть. У него поднялась температура. Рвота. «Еще этого не хватало», — в сердцах подумал Миша.

Алла припала к сыну, обливая его слезами. Когда врач «скорой» предложил отвезти Костика в больницу, Алла накрыла сына собой.

— Ни у меня, ни у вас нет сейчас нужного лекарства, — убеждал врач.

Мать впилась губами в горячую ручку сына:

— Не-ет!

— Миша! Зажги газ! Поставь кастрюлю воды! Сбегай к тете Зине! Она травами торгует. Пусть придет. Пусть несет все, что у нее есть. Миш-а! — истошно крикнула Алла, видя, что муж, пока еще муж, остолбенело смотрит на нее.

И завертелось. Тетя Зина определила отравление. Мигом подогрела молоко, напоила Костика. Потом принесла каких-то трав – пучки, стебли, корешки, молотые в порошок. Миша суетился между тетей Зиной, Аллой и Костиком. Алла командовала. Тетя Зина хлопотала над отварами и припарками. Врач скорой помощи, пока по радио не поступал вызов, наблюдал за слаженной работой этой импровизированной «бригады скорой помощи», заинтересованно ждал результатов. Заметив, что лицо Костика опять посветлело, мягко отстранил Аллу от сына и замерил температуру, давление, пульс. Засмеялся:

— Сказка – и только! Мне здесь делать нечего...

Зазвонил телефон. Миша нехотя поднял трубку.

— Дядя Миша, позовите Нату, — услышал он голос дочкиной подружки.

— Её нет, — ответил машинально и взглянул на часы.

Алла тоже метнула глазами на будильник: двенадцать ночи! О, Боже! Где она?

— Дядя Миша! — позвал голосок из трубки.

Миша бросил трубку. Схватил опять и бешено завертел наборным диском:

— Алло! Алло! Свету! Подожди, Иван! Свету дай! Светочка! Наты нет дома! Ты ее не видела? Днем? Во сколько? Может ты знаешь? Дай телефоны ее подружек! — И стал лихорадочно записывать.

Алла, дрожа в накинутом халате, заглядывала через плечо, приговаривая:

— Боже! Ната! Где же ты? Боже!..

По очереди они перезвонили по всем адресам.

— Мишенька, езжай! Не знаю куда. По знакомым, у которых нет телефона.

Миша беспомощно шарил по карманам.

— У меня в кошельке, на столике. Все бери. Перезванивай, — крикнула вдогонку.

Прошел мучительный час. Миша звонил, усиливая отчаяние Аллы. В голове мелькали виденные и слышанные картины похищения детей, издевательства над ними. Бросил телефон, выбежал из квартиры, побежал по взятым адресам.

Алла была на грани безумия. Костик спал. Она кидалась к нему, прикладывалась губами ко лбу, меряя температуру. Опять вскакивала к телефону и напряженно ждала звонка. Наконец в дверь позвонили. Она щелкнула замком. В проеме стоял Миша с заспанной Натой на руках.

— Что, не мог сам открыть! — привычно закричала Алла и осеклась.

—Я ключ забыл, — Миша положил Нату на диван. — Смотрела у Синцовых телевизор с Валей и уснули обе. Синцовы были в гостях...

Алла бессильно упала ему головой на грудь и заплакала . Миша успокаивающе гладил ее волосы.

Костик приоткрыл глаз, сверкнул взглядом на них, облизав пересохшие губы. Отравление все еще сказывалось и он, обессиленный от боли, страданий, провалился в сон, чтобы проснуться счастливым. Ната тоже крепко спала, не чувствуя никакой своей вины...

*П. НАГНИБЕДА.*

## Лунный календарь садовода и огородника

**ДЕКАБРЬ**

Дни, неблагоприятные для сева и посадки любой культуры 4, 5, 7, 8, 14, 17—19, 22, 28—30

**Благоприятные дни**

**Сев, посадка**

Огурцов тепличных сортов на рассаду (предварительно проверив на всхожесть) 6, 10, 11

Корнеплодов (редиса в теплице и на подоконнике) 16, 22, 27, 28

**Уборка**

редиса в теплице 3, 17, 18, 27

Полив растений 4, 5, 7, 8, 14, 17—19, 22, 28—30

Заготовка черенков для весенней прививки (если нет сильных морозов) 25, 26

Зимняя прививка яблонь, груш, слив 3, 6, 7

ЗДАРЭННІ

## Ляжала ля агароджы скрынка з патронамі

Сярод белага дня рабочы аднаго з баранавіцкіх кааператываў заўважыў ля агароджы аўтакамбіната N 2 па вуліцы Грунтовай цынкавую скрынку. Знаходка яго зацікавіла. Прыгледзеўшыся лепей, ён пабачыў, што яна цэлая і не пашкоджаная, а ў ёй патроны. Пра небяспечны груз рабочы адразу ж паведаміў у раённы аддзел унутраных спраў.

Высвятленнем абставін, як цынкавая скрынка з 1080 патронамі калібру 5,45 мм апынулася ля агароджы зусім невайсковага аб'екта, займаецца ваенная пракуратура горада.

*(Наш кар.)*



Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.
Фармат 420х300 мм. Аб'ём — 1 друк. аркуш.
Падпісана да друку 1 снежня ў 14.00.

Заснавальнік: рэдакцыя "Газеты для вас"
Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку. Пасведчанне № 694.

РЭДАКТАР ЛІДЗІЯ ЦАЛУЙКА.
НАШ АДРАС: 225250 , г.Івацэвічы, вул. Дзяржынскага, 30, рэдакцыя " Газеты для вас".
Тэлефон: 8 ( 245) 2-12-29.



*Тыраж 1100.*
*Заказ 2870.*